# Самапомач Samapomač

Беларуская кооператыўна-гаспадарчая часопісь

Год III. | Вільня, Сьнежань 1934 г. | № 12.

*Хай злыдні над намі,*
*скрыгочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй,*
*засявай!..*
ЯНКА КУПАЛА.



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапамачу*

*Джордж* РЭССЭЛЬ
(Ірляндзец).



# Зьмест „САМАПОМАЧЫ“ за 1934 г.



*Працяг на 3-яй бачыне вокладкі.*

## Ceny ŭ Vilni

**Zbažžavoje. 28.XII.34 h.**

*Ceny pry kupli-prodažy za 100 kilo:*

| | |
|---|---|
| Žyta I stand. | 14 50—15 00 |
| Žyta II stand. | 13,00 - 13 50 |
| Pšanica, stand. | 17.25—18 75 |
| Avios standartovy | 12.25—13.75 |
| Jačmień, stand. | 14.75—16 25 |
| Muka pšaničnaja | 17.50 —29 75 |
| Muka, žytniaja 55% | 24 00 —24 50 |
| Muka žytniaja 65% | 20.00 —21 50 |
| Muka žytniaja sitkovaja | 15.75—16.00 |
| Muka žytniaja razovaja | 15.75—16 00 |
| Muka žyt. da 82% (typ vajskovy) | 18 00—18 25 |
| Votruby žytnija | 7 50 - 8 00 |
| Votruby pšaničnyja | 10,00—10.50 |
| Siena (vahonami) | 6 00— 6 50 |
| Sałoma (vahonami) | 3.50— 4.00 |

**Małočnaje, 28.XII.34.**

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, za kilo ŭ hurcie | 2.70 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 3.00 |
| Masła stałovaje za kilo ŭ hurcie | 2.50 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 2.80 |
| Masła solenaje za kilo ŭ hurcie | 2.30 |
| „ „ „ „ u detalu | 2.60 |
| Syr navahradzki, za kilo ŭ hurcie | 2.30 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 2.80 |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie | 1.70 |
| „ „ „ „ u detalu | 2.00 |
| Jajki, kapa | 6.00—7 20 |
| „ štuka | 12—14 hr. |


## „САМАПОМАЧ“

Часопісь выходзіць раз у месяц.

**Падпіска:** На год 3. зл., на паўгода — 1.75, на 3 месяцы —1.20, заграніцу—ўдвая даражэй.

Цана асобнага нумару 40 грашоў.

Коопэратывы, гурткі і прыватныя асобы, што выпісваюць на адзін адрэс найменш 10 экзэмпляраў „Самапомачы“ (камплект), плацяць за экзэмпляр толькі **1.20** зл. за 10 экз. **12** зл.

Грошы на «Самапомач» пасылаць на чэкавае конто інж. Клімовіча у П.К.О. Nr. 180 485, а ўсякія пісьмы — на адрэс:

Redakcyja „Samapomač“, Vilnia, Połackaja vul. 4 - 10

(Wilno, Połocka 4—10).

# Samapomač

BIEŁARUSKAJA KOOPERATYŬNA-HASPADARČAJA ČASOPIŚ.

Adres: VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 4—10.

# Самапомач

| Hod III. | Vilnia, Śniežań 1934 h. | Nr 12 (29). |
|---|---|---|


## Minaje hod stary — — spatykajem Novy!

Da histaryčnaj minuŭščyny naleža ŭžo „stary" hod 1934.

Raźvitvajemsia z im biaz žalu. Ale navuki, jakuju nam pakinuŭ, nie zabudziem. Asobna ŭ spravie kooperacyi i asobna ŭ spravie ahulna-haspadarčaha žyćcia.

U spravie kooperacyi 1934 hod u Polščy byŭ zaviaršeńniem reformaŭ, jakija nie zapynimsia nazvać nieščaślivymi. Kooperacyja ŭ Polščy ad 1934 h. straciła najistotniejšuju svaju aznaku hramadzkaści — samadapamohu, samaŭradavańnie i pierajšła pad kantrol biurokratyčnych čyńnikaŭ, z kooperacyjaj niamajučych ničoha supolnaha. Pry hetkich umovach praca na kooperatyŭnym poli ŭ Polščy naahuł stanovicca ciažkaj; tak ciažkaj, što najvidniej šyja pradstaŭniki polskaj kooperacyi adkryta havorać ab «kryzysie kooperacyi», jak ab hetym pišam u siańniašnim numary „Samapomačy na inšym miescy.

Dla biełaruskaj-ža kooperatyŭnaj dumki ŭ hranicach sučasnaj Polščy, 1934 hod staŭsia dasłoŭna pierałamovym. Biełarusy ŭ Polščy za hety hod prosta pastavili pytańnie, **ci jość naahuł jakaja patreba tryvać pry kooperatyŭnaj formie arhanizavańnia**, kali z hetaj formy sapraŭdy astalisia tolki „rožki dy nožki"? Ci jość patreba tak bicca za hetyja samyja tolki **slovy biaz źmiestu?** Tym bolš, kali i hetyja astatki abstaŭleny trudnaściami da niepakanańnia. Drukavanyja ŭ minułym 1934 h. na bačynach „Samapomačy" aficyjalnyja dakumenty („Samapomač" №5) i fakty, abapiortyja na korespondencyjach abo biespasiarednich apaviadańniach -- usio heta tolki małaja častka tych pieraškod, tych achviar, jakija treba siahońnia złažyć, kab zasnavać najmienšuju choć-by kamorku kooperatyŭnaj arhanizacyi na biełaruskich ziemlach pad Polščaj. A pašto? Kab dačakacca likvidacyi, abo dabravolna addać pad čužuju „apieku"? Ci pa toje, kab achviarny arhanizatar moh pry hetym „zarabić paru hrašoŭ"? Abo moža pa toje, kab zdyskredytavać (pakazać niazdolnaj) samuju dumku ŭ vačču budučych pakaleńniaŭ? — Pašto?

U takich varunkach na vystaŭlenaje pytańnie dać adkaz nia lohka. Adno tolki peŭnym jość, što kali sučasnaja kooperatyŭnaja forma, z voli kaho inšaha, maje słužyć niekooperatyŭnaj mecie — **denacyjanalizavańnia biełaruskaha Narodu,** dyk nichto z śviedamych Biełarusaŭ na takuju Kainavu rabotu pajšci **nia moža, nia maje prava.** Kooperacyja — vialikaja dumka; ale kali jana staniecca aružžam padboju našaha Narodu, dyk adkinuć jejnaje zastasavańnie ŭ sučasnuju paru my ni na mament nia ŭstrymajemsia.

Vychodziačy z hetych mierkavańniaŭ, spatykajem Novy 1935 hod z asablivym napiaćciem; čakajem, kudy paviernie kalaso žyćcia i pavodle hetaha, majučy na ŭvazie pierad usim dabro našaha Narodu, zastasujemsia.

## † Albin Stepovič.

Unočy z 17 na 18 śniežnia 1934 h. ŭ Litoŭskaj klinicy ŭ Vilni pamior ad chvoraści serca śviatoj pamiaci Albin Stepovič, staršynia Vilenskaha Addziełu Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury i dziejny supracoŭnik šmatlikich biełaruskiah arhanizacyj i instytucyj.

Śv. p. A. Stepovič jość rodnym bratam viedamaha paeta i filozafa Kaz. Svajaka (Ks. Kast. Stepoviča), taksama ŭžo niabožčyka. Radziŭsia A. Stepovič u Śviancianščynie, u 1894 h. Navuki ahulnyja i specyjalnyja (muzyka) prachodziŭ u Vilni i ŭ Kazani. Apošnim časam šmat pracavaŭ jak žurnalist i kampazytar. U charaktary žurnalista supracoŭničaŭ śv. p. A. Stepovič i ŭ našaj časopisi „Samapomač."

Pachoviny śp. p. Albina Stepoviča adbylisia dn. 19 śniežnia z Kaścioła śv. Mikałaja na mohiłki Rossa. U žałobnym pachodzie i ŭ samych pachovinach prymała ŭdzieł vialikaja hramada Vilenskich biełarusaŭ i naahuł znajomych niabožčyka. Na mahiłcy A. S—ča, pobač z mahiłkaj Kaz. Svajaka, złožany byli miž inšymi vianki z biełaruskimi šarfami ad Centralnaha Uradu Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury, dzie niabožčyk byŭ sekretarom, i ad Vilenskaha Biełaruskaha Kaścielnaha Choru, katoraha niabožčyk byŭ zakładčykam i kirаŭnikom.

Viečnaja pamiać!

*Red.*

# Сельская гаспадарка.

## У пару цяленьня кароў.

Доўга йшчэ ня будзе лішнім прыпамінаць нашаму земляробу асноўныя правілы дагляду каровы прад і пасьля цяленьня. Бо гэта справа, як паказвае жыцьцёвая практыка, надта неяк памалу пасуваецца наперад. Гдзе як гдзе, але тут пастарому гнезьдзіцца нясьведамасьць найважнейшых няраз правілаў, ад спаўненьня каторых у вяпікай меры залежа ўся „ўдача“ ці „няўдача“ гадоўлі і на каторыя пры добрай волі можа ўздабыцца і найбяднейшы нават гаспадар.

Першым такім правілам ёсьць даць ад пачынуць карове прад цяленьнем (не даіць) прынамсі 6—8 тыдняў. Дрэнна робіць тая гаспадыня, што гонячыся за найбольшым даходам цягае карову аж да самага цяленьня. Раздоеная карова ня раз сапраўды ня можа стрымацца. Але гэткая „малочнасьць“ уганяе карову найчасьцей у сухоты і тады прагнасьць людзкая караецца бязлітасна...

Ад каровы па ацяленьні ня можна „ад крадаць“ малозіва, бо гэта помсьціцца на здароўі цяляці. Справа ў тым, што цялё родзіцца з страўным трактам (трыбухом і чэравамі) напоўненым кашавітай масай, каторую трэба абавязкава нечым прачысьціць. Вось-жа на гэту работу і празначана малозіва, каторае мае ў сабе асаблівую складовую сучастку званую **колёструм**‘ам. У тым-жа выпадку, калі малозіва ад цяляці „адкрадаецца,“ цялё ня мае чым прачысьціцца і з першых ужо дзён свайго жыцьця выстаўляецца на небясьпеку хваробы. Дзеля ўсяго гэтага трэба памятаць, што малозіва належыць не чалавеку, але цяляці.

Ад дагляду і корму цяляці ў першых днёх, тыднях і месяцах залежа ўсё дальшае ейнае жыцьцё. Іншымі славамі, тое што прапусьціцца ў першым годзе жыцьця цяляці (і наагул жывёлы), ніколі пасьля ня дасца дагнаць. Таму на корм і догляд цяляці ў першым годзе жыцьця трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу, памятаючы, што „ашчаднасьці“ ў гэту пару вельмі неразумныя і проста шкодныя.

Цялё гэта будучая карова. Карову-ж —сягоньня—аплаціцца трымаць толькі добрую, каторая можа выгадавацца таксама толькі з добрага цяляці. Таму на плем трэба пускаць толькі найлепшыя цяляты і па добрых бацькох. Найлепш гадаваць цяляты ад сваіх кароў, бо тады толькі ведама — больш-менш — чаго ад гэткага цяляці можна спадзявацца. Калі-ж няма да гадоўлі цялят з собскага хову, дык трэба старацца набыць іх з гадоўлі гаспадарак знаёмых. Купляць цялё на плем на рынку, гэта лётэрыя, якая можа, праўда, удацца, але найчасьцей не ўдаецца і прыносіць толькі страты. У кожным разе на рынку шукаць цяляці на плем можна толькі у выпадку крайняй канешнасьці, калі яго ня можна нігдзе йнакш дастаць.

Чым далей племнае цялё астаецца пад маткай—сьсе малако, — тым лепш для самога цяляці. Раней 4-ох тыдняў адлучаць цяляці ні ў якім выпадку ня можна. Пераход ад малочнай стравы ў цяляці павінен быць паволны. Найлепшым кормам для цяляці па-

## Ab hadoŭli aviečak.

Biaz liku množacca prykłady, što ŭ haspadarčym pierad usim žyćci toje tolki maje budučyniu, što apirajecca na miascovych patrebach, na miascovych siłach. Tyja-ž, chto suproć hetaj praŭdy błudzili pa čužych darohach, adzin za druhim z skruchaj viartajucca siahońnia „na staroje śmiaćcio“ i kožnaha pierakonvajuć, što svaja „ziamla musić nas apranuć i vykarmić“. Hetak varočajuć, a navat užo viarnuli da nas, lon. A apošnim časam varočajuć i „durnuju aviečku“, vyhnanuju paru dziesiatkoŭ hadoŭ tamu nazad, jak „nieapłatnuju“. Lon varočajuć, bo kramnaja tandeta — roznyja parkaliki i jadvaby — akazałasia za darahoj i niepraktyčnaj pierad usim dla pracy ŭ haspadarkach. Viartajuć i aviečku, bo jejnyja pradukty: miasa, a asabliva aŭčynka i voŭna — ničym inšym roŭnacennym u našym klimacie nia možna zamianić. A da taho, daloka nia ŭsiudy prakormicca na našych paśbiščach dojnaja karova, dzie zusim dobra vykarmicca aviečka. Z praŭdaj hetaj nia ličylisia ŭ nas ludzi prad 10-ciu hadami i tamu siahońnia tak mnoha majem pazačynianych małačarniaŭ, jakija biazmysna zakładalisia tut, pieravažna za pazyčanyja hrošy, i za jakija siahońnia nie adzin haspadar, klanučy z apošnich słoŭ, spłačyvaje veksalovyja daŭhi.

Abmyłak paŭtarać nia volna. Tam, dzie jość varunki dla hadoŭli karoŭ, treba ich dalej hadavać. Poruč z karovaj adnak u kožnaj haspadarcy musić znajścisia i aviečka, bo košt zimovaha hadavańnia jaje zusim niaznačny (ab hetym mova budzie nižej), a praz leta aviečka sama siabie vyžyvie.

**Histaryčnaje prošłaje aviečki.** Aviečka žyvučaja siahońnia na biełaruskich ziemlach pachodzić ad eŭropejskaha muflona.*) Majem pry hetym na ŭviecie aviečku vierasavuju, jakaja źjaŭlajecca svajačkaj hetak zvanaj śviniarki, pašyranaj pa ŭsim užbiarežžy Baltyckaha mora i tamu často nazyvanaj jak aviečka

*)Sprava minuŭščyny aviečki jašče akančalna nie daśledžana.

сьля малака поўнага (клустага) ёсьць малако худое (поснае), або зьбіранае (з-пад цэнрыфугі); але такое малако павінна быць сьвежым і ні ў якім выпадку ня можа быць наквасьнеўшым. Акрамя малака, добрым кормам цяляці ёсьць мурожнае сена, канюшына і авёс.

Аб фабрычным корме, як усякія жмыхі і інш. ў сягоньняшні час гаспадарчага крызысу тут не гаворым з зразумелых прычын. Але і гаспадарка дае зусім досыць і добрага корму, каторы трэба толькі адпаведна прыгатаваць.

Урэшце справа ўрэгуляваньня часу цяленьня каровы. У нас блізу правілам сталася, што карова мусіць канешна цяліцца ў зімовыя месяцы: студзень, люты, сакавік. У выніку гэтага вясна і лета, калі хапае пашы, затоплены бываюць малаком, а ўвосені і раньняй зімой, калі малако падымаецца ў цане, гэтага малака якраз няма, бо ўсе каровы разам зарываюць прад цяленьнем.

Гэткае нездаровае явішча можна даволі лёгка направіць, перасуваючы пару цяленьня кароў на той час, калі малака ў данай мясцовасьці бывае помала і за яго тады можна дастаць лепшую цану.

Пры рэгуляваньні пары (месяца і дня) цяленьня каровы рахуецца, што карова бывае цельнай праз 285 дзён, або ня цэлы 41 тыдзень. Па ацяленьні-ж карова патрабуе бугая па трох з пал. да 6-ох тыдняў. Калі ў гэту пару карова бугая не дастане, дык запатрабуе яго праз 3—4 тыдні ўзноў. Плоцевае падражненьне трывае 24-36 гадзін.— Ведаючы гэтыя орыентацыйныя лічбы можна ўсяляк рэгуляваць пару цяленьня каровы Зразумелая рэч, што ня можна стасаваньнем гэтых лічбаў надужываць здароўя самой каровы, г. зн. ня можна што-год мяняць у тэй-жа каровы пару цяленьня; раз устанавіўшы жаданую пару цяленьня трэба яе прытрымлівацца стала, прыпускаючы ацеленую карову да бугая не раней як праз 2—3 месяцы.

Пры месцы зазначым урэшце найпрасьцейшы спосаб аблічэньня месяца і дня цельнасьці каровы, калі ведамы дзень прыпусканьня гэтае каровы да бугая. Напр. карова прыпушчаная 11.IV, мусіць нармальна ацяліцца 21.I наступнага году. Як гэта аблічаецца? Да лічбы, якая азначае дзень (у нашым прыкладзе 11) дадаецца 10, а ад лічбы што азначае месяц (красавік =IV) аддымаецца 3 — атрымаем 1 (=студзень). Дадаўшы гэтак 10 да 11 атрымаем 21; а адняўшы 3 ад IV атрымаем 1; першая лічба будзе азначаць дзень (21), а другая—месяц (1-шы = студзень).

*А. К.*

---

# HRAMADZIANIE!

*Chto dabetul nie apłaciŭ jašče padpiski na „Samapomač" za 1934 hod, prosimo zrabić heta nieadkładna, pierakazvajučy naležnuju nam sumu na čekavaje konto P.K.O. 180.485 inž. A. Klimoviča, Vilnia.*

*Tym padpiščykam, jakija pamima hetaha nie apłaciać svajho doŭhu, buduć vysyłacca paštovyja sysknyja nakazy, za što napierad pieraprašaje*

*Administracyja „SAMAPOMAČY"*
*Vilnia, Połackaja vul. 4—10.*

*Śniežań 1934.*

---

niamieckaja. Da rečy ŭspomnić, što naša vierasavaja aviečka svomaściami svaje voŭny i asabliva aŭčynki vielmi padobna da rasiejskich aviečak ramanaŭskich, viedamych z svaje vysokaje jakaści jak kažušny tavar.

Jość šmat dadzienych, što na biełaruskich abšarach hadoŭla aviečak zdaŭna była vielmi pašyrana. Zvod na aviečki pryšoŭ u nas pad kaniec minułaha stahodździa, kali rynki zapoŭnivalisia tannaj zamorskaj voŭnaj aŭstralijskaj. Niejki čas jašče miascovyja hadaŭcy probavali zatrymacca na aviečkach rasaŭ miasnych ci choć by tolki voŭniarskich, ale i hety kirunak nia moh tut utrymacca, bo aviečki hetych rasaŭ vymahajuć šmat lepšych paśbiščaŭ i dahladu, čaho našy hadaŭcy, naturalna, dać nie mahli. Pry takich varunkach stan hadoŭli aviečak bystra abnižaŭsia, a suśvietnaja vajna, kryvava pierakaciŭšysia praz Biełaruś, miascami hetu hadoŭlu źniščyła daščentu. Tolki apošnimi časami dzie-nia-dzie dajecca zaŭvažyć u našaj hadoŭli aviečak pavarot da lepšaha: kab-ža hety krok dy pryśpiašyć.

**Varunki ŭdačy hadoŭli aviečak.** Hadoŭla aviečak, jak i kožnaja inšaja, a moža navat asabliva patrabuje planu. Zdaroŭje plemnych štuk jość varunkam ahulnym. Asablivaściu zatoje pry hadoŭli aviečak na našych ziemlach jość kaniečnaść hadavańnia aviečak na aŭčynku: vyšejuspomnienaja praktyka minułych dziesiacihodździaŭ nie pazvalaje hadavać u nas rasy aviečak specyjalna dla voŭny ci dla miasa. Našy ziemli prosta pryznačany dla hadoŭli aviečak **kažuchovych** i ad hetaha adstupać nia možna. Adnej z pryčyn upadku hadoŭli aviečak u nas u prošłym stahodździ było jakraz toje, što miascovyja hadaŭcy byli kinuŭšysia na hadoŭlu aviečak miasnych i voŭniarskich, a zakinuli hadoŭlu aviečki miascovaj, kažuchovaj. Hetaj abmyłki nia možna paŭtarać ciapier.

Płodnaść (bliźniaty i bolš) plemnaha aviečaha materyjału jość dalšym varunkam apłatnaści całaj hadoŭli. Niekatoryja hadaŭcy jduć u hetym kirunku tak daloka, što radziać tak pakiravać spravu, kab aviečki kacilisia nia raz, a dva razy ŭ hod; kankretnych prykładaŭ ta-

# Жываплот.

Жываплот — як кожнаму ня трудна дагадацца — гэта жывы, большую часьць або і круглы год зялёны плот, з розных кустовых расьлінаў, калючых, шпільковых і ім пад., залежна ад як сьці зямлі, на каторай такі плот засаджваецца, ад густу гаспадара, ад ягоных запасаў і г. д. Гэткі плот умела вы браны і засаджаны ёсьць вельмі добрай агародкай. Акрамя таго жываплот, калі ён складаецца з мядадайнага кустоўніку, вельмі ўзбагачвае пчаліны мёдазбор; такі-ж жываплот з белай морвы дае магчымасьць пабочнага заработку з ядвабніцтва. У кожным-жа разе жываплот ёсьць яшчэ вельмі густоўнай аздобай усяго ім агароджанага месца (саду, агароду, усіх гаспадарскіх будынкаў). Гэткае многастароньняе значэньне жываплоту заслугоўвае ўвагі нашай перад усім земляробскай моладзі, якая павінна дбаць аб харошы выгляд вёскі. Тады перастане і масавае ўцяканьне з вёскі, гэтак небясьпечнае для найбліжэйшай ужо нашай будучыні.

Само застасаваньне жываплоту выглядае больш-менш гэтак:

Жываплот можа быць з расьлін некалючых, калючых і шпільковых (хвойкавых). Кожны з гэтых гатункаў можа быць нізкі, сярэдні або высокі. Не павінен ён быць вышэйшым ад 3 м., звычайна аднак толькі паўтара—два мэтры. Падбор расьліны пад жываплот залежа ад таго, чаму сам жываплот мае служыць: ці ён мае абгараджываць нейкі варыўны агарод, пладовы сад, кветкавыя клёмбы ці што іншае. Штс датыча глебы, дык жываплотныя расьліны звычайна на гэта неперабoрлівыя, аднак на лепшых глебах жываплот расьце буйней. Жываплот ад дарогі мусіць быць абавязкава падмацаваны дротам (калючым). Дзеля гэтага што пяць мэтраў укопываюцца слупкі з цьвёрдага дрэва і да іх прымацоўваюцца тры-чатыры драціны. Замест самых толькі слупкоў, убіваюцца часам толькі што два з паловай мэтры калкі, а што пяць калкоў укопываюцца два мэтры высокія слупкі, да каторых прымацоўваецца дрот як і ў першым выпадку. Уздоўж гэтак праведзенага дроту ўскопываецца зямля да глыбкі 40 см., паясом ушырку 30—40 см.

Садзіцца жываплот у два рады, у адлежнасьці адзін ад другога рознай пры розных расьцінах. Найлепшым часам да саджэньня жываплоту ёсьць восень, калі ападзе лісьцё. Але можна садзіць і раньняй вясной: як толькі абсохне зямля, садзяць акацыю, граб і дзікую ружу, а таксама ўсе расьліны шпільковыя. Садзіць трэба прад тым, як у дрэва маюць распускацца покаўкі (пупушкі).

Да саджэньня, калі яно мае йсьці скора і спраўна, трэба трох людзей. З снасьці патрэбна перад усім гэтак званая лата, на каторай ёсьць знакі меры (сантымэтры, дэцымэтры і г. д.). Лата гэта кладзецца ўздоўж скапанага рову. Адзін (з траіх) чалавек трымае расьлінку каля знаку на лаце, а два другія абсыпаюць карэнь з бакоў добрай зямлёю. Ня можна садзіць за глыбака і карэньні павінны быць плытка прыкрыты зямлёю. Абсыпаную на карэньні зямлю трэба ўтаптаць а вясной і паліць вадой. Пры саджэньні вясною каля самай расьлінкі робіцца малая „місачка“, а пры саджэньні ўвосені такая-ж расьлінка абкопываецца малым валам зямлі, каторы вясной узноў рассыпаецца, як гэта робіцца пры саджэньні ўсякага дрэўца. Пад шпільковымі, якія садзім толькі вясной, зямлю засьцілаем перапрэлым гноем, каторы

---

koj hadoŭli adnak nie padajuć i tamu ničoha nia možna skazać, jak i na kolki takaja hadoŭla mahčymaja. asabliva što da zdaroŭja hetak intensyŭna hadavanaj žyvioły.

**Vybar i zapłodžvańnie plemnikaŭ.** Plemnikam moža być tolki žyvioła zdarovaja, jakuju možna paznać pa tym, što jana dobra ješć, viasiołaja, skura maje čyrvanavy nalot, a šniuk (chrapy) byvaje mierna vohkim. Da niadaŭna było praviłam, kab nie zapłodžvać aviečku maładziejšuju dvuch hadoŭ. Siahońnia-ž rachujuć, što takaja hadoŭla nie apłačvałasia-b i kažuć, što možna prypuskać da buhaja aviečku ŭžo adnahodniuju. Hetaha adnak, asabliva pry našaj hadoŭli aviečak rasaŭ poznych, nie vypadała-b radzić, bo choć takaja maładaja aviečka i moža stacca kotnaj, to heta adnak biazumoŭna kiepska adabjecca na jejnym zdaroŭi i na dalšym patomstvie. Dziela taho raniej paŭtara hodu aviečku našu prypuskać da buhaja—barana nia možna: sam-ža buhaj najlepš kali budzie mieć užo skončanych dva hady. Nie paturaje heta achvocie maładych asabliva hadaŭcoŭ, chočučych stacca bahatymi za adnym macham, ale hety sposab viadzie da mety bolš peŭna.

Na adnaho buhaja (barana) pry „dzikim“ sposabie zapłodžvańnia (volna ŭ stadzie) nia možna bolš prypuskać, jak 30 aviečak u adzin sezon naahuł, abo 5 štuk u dzień. „Z ruki“ adnak adzin buhaj moža za sezon absłužyć 60 i navat 80 aviec.

Aviečka patrabuje buhaja ŭ praciahu 1—2 dzion i kali ŭ hetu paru nia budzie zapłodniena, dyk praz 12—16 dzion zapatrabuje buhaja nanova. Chočačy pryśpiašyć zapłodžvańnie, plemnaj žyviole dajuć krapčejšuju pašu, naprykład aŭsa; aviečcy aprača taho dajuć krychu soli. Niekatoryja hadaŭcy ćvierdziać, što na achvotu da zapłodžvańnia dobra pamahaje paša na žytnim aržyščy i naahuł žytniaje ziarno; ale z hetym treba być aściarožnym.

Čas prypuskańnia aviečak da buhajoŭ kirujecca tym, kali chočam mieć jahniaty: zimoj, viasnoj ci ŭletku. Rachujecca pry hetym, što zapłodnienaja aviečka nosić (byvaje kotnaj) pryblizna 21 tydzień (150 dzion).

бароніць прад стратай вогкасьці (вільгаці). Гэтак падсыпаныя шпільковыя дрэвы нятрацяць дольных галінак.

На жываплот прыдатны толькі маладыя расьлінкі, бо такія толькі могуць добра разрастацца, уверх і ўшыркі. Акацыю бяром аднагадовую, іншыя дрэўцы двухгадовыя, а шпільковыя — трох-гадовыя.

Саджонкі (дрэўцы да саджэньня) гадуюцца з насеньня, якое канешна трэба стратыфікаваць, гэта знача перахоўваць праз зіму ў тонкіх пластох, перасыпаных вогкім пяском ці агародняй зямлёй; інакш такое насеньне вельмі хутка траціць сваю ўсходлівасьць.

Хто багацейшы на грошы, можа саджонкі купляць у школках гатовыя. 100 штук акацыі каштуе менш больш 3—4 зл; іншыя саджонкі бываюць звычайна даражэйшымі. У першым годзе па пасаджэньню трэба жываплот падліваць, асабліва ў сухія гады ў м цах траўні і чэрвені; акрамя таго зямлю трэба ўзварушыць і палоць ад рознага пустазельля. Здараецца, што некаторыя расьліны загінуць або іх хтосьці пашкодзіць; тады іх трэба ў найбліжэйшую восень замяніць новымі. Абстрыганьне жываплоту пачынаем звычайна па двух гадох.

У нацягненыя драты ўплятаем расьліны то ў адзін, то ў другі бок. Прыстрыгаць жываплот на жаданую вышыню трэба вельмі рана вясной, нават ужо ў канцы м-ца лютага. Акацыю-ж трэба прыстрыгаць яшчэ раз, пры канцы м-ца чэрвеня або ў пачатку м-ца ліпня. Цэлы час стараемся, каб расьліны жываплоту пускалі больш галінак унізе і гэтым самым загароджвалі праход. Жываплот мае мець 60—70 см. ушыркі і гэту шырку трэба сталым прыстрыганьнем захаваць.

Часам кажуць, што жываплот пастарэе і ня будзе адрастаць. На гэта ёсьць рада: зімой сьцяць (прыстрыгчы) стары жываплот аж на 5 см. ад зямлі, а тады ён—жываплот—адрасьце йшчэ таго самага году. Ня можна толькі гэтак абнаўляць жываплоту з расьлін шпільковых (хваёвых). Калі-ж зямля пад жываплотам бывае бедная, дык яе трэба пагнаіць або і звапнаваць. Важная пры гэтым рэч, каб жываплот палоць і не пазваляць расьці ў ім крапіве, хрэну і іншаму пустазельлю, бо яно вельмі выкрадае спажыўныя сучасткі з глебы.

Расьліны на жываплот:

1. Калючыя: **жоўтая і белая акацыі** найлепш з усіх расьлін прыгодны на жываплот каля садоў. Можна развесьці самому вельмі лёгка з насеньня або з карэньневых адросткаў, каторыя яна шчодра выпускае. Садзіцца на 30 см. адна ад другой і зразу-ж нізка прыстрыгаецца. Блага тое, што разрастаецца ў грунт.

**Глог** дае вельмі добры, непраходны жываплот. Насеньне цяжка ўсходзіць. Садзіцца ў два рады што 25-30 см. у адным або ў двух радох. На жываплот каля саду яго ўжываць аднак ня можна, бо плодзяцца ў ім шмат шкоднікаў для саду.

**Дзікая ружа** або свэрбіус дае нізкі, вельмі калючы жываплот. Удаецца ўсюды. Садзіцца што 40—50 см. адна ад другой.

**Аліўнік вузкалісты** вельмі калючы, садзіцца што 30 см. Размнажаецца з насеньня.

**НЕКАЛЮЧЫЯ:**

**Бэз** расьце на рознай зямлі, размнажаецца з адросткаў або з насеньня. Садзіцца што 30 см: як добра запусьціцца становіцца непраходным.

**Бук** дае вельмі добры жываплот, каторы даецца стрыгчы на ўсякія спосабы і фор-

---

Tam, dzie jahniaty majuć zbyt na miasa, radziać kiravać akočyvańnie aviečak na miesiac śniežań: jahnio da viasny darastaje tady na hetulki, što jaho možna vykarmić na paru zialonaha šalbabonu i naahuł pieršaj harodniny, kali jahniaty byvajuć najdaražejšyja. Hetkaje vykarmlivańnie jahniat adnak nia tannaje i tamu ŭ tych haspadarkach, dzie jahniaty praznačany nie na miasa, a na hadoŭlu, tam najvyhadniej ich mieć u miesiacy lutym: jahnio tady da viasny na hetulki vyraście, što razam z matkaj budzie mahčy karystać z rańniaj i tannaj zialonaj pašy. A heta ŭ haspadarcy šmat znača.

**Akočyvańnie aviečak.** Vysoka kotnuju aviečku — u 4-tym i asabliva 5-tym miesiacy — treba vyścierahać ad usiakaha ścisku, asabliva pry vyhaniańni z chlava, ad udaraŭ, ad ckavańnia sabakami, błahoj pašy, niačystaj vady, dalokaha pierahonu pa zapylenych darohach, pieraskakivańnia cieraz ravy, ad prastudy i ad lišniaj haračyni. Apošni miesiac pierad akočyvańniem musić aviečka dastać silniejšuju pašu: rodziacca tady jahniaty silniejšymi, bolšymi. Aščadnaści pašy dla matki jahniaci ŭ hetu paru vielmi niehaspadarny, bo jahnio pry najlepšaj pašy paśla nie dahonie taho, što ciapier prapuściła... Samaje akočyvańnie zvyčajna prachodzić lohka. Kali-b maładaja aviečka (piaršačka) nie chaciela čamuści saić svaich jahniat, jaje treba z jahniom na karotki čas zapiorci ŭ ciesnaj zaharadcy, prad tym abstryhšy vymja ad lišniaj na im voŭny. Jahnio zvyčajna pakidajecca pry matcy i jana jaho haduje. Kali-ž adłučać jahnio adrazu, dyk treba pamiatać, što pieršym kormam dla jaho ŭsio-ž pavinna być matčynaje małako, jakoje maje ŭ sabie ŭ pieršyja paśla akačeńnia dni asablivuju masu, zvanuju „kolostrum", jakaja ačyščaje kiški jahniaci.

**Hadavańnie jahniat.** Pieršyja try čatyry miesiacy jahnio naležyć da matki, jakaja musić mieć dosyć małaka, asabliva ŭ pieršyja dva-try tydni, kali jahnio nia moža jšče samo sabie staracca pašy. U hetu paru sojučaja aviečka pavinna dastać małakahonnuju pašu,

# Кармленьне і дагляд курэй узімку.

Улетку зьлятаюць куры з курасаду ўжо каля трэцяй гадзіны рана і шукаюць на свабодзе корму да познага вечара Праз 16—17 гадзін дня знаходзяць яны сабе ў прыродзе ўсё тое, чаго патрабуюць, каб несьці яйкі. Сонца, рух на вольным прасторы праз даўгі летні дзень, патрэбная арганізму спажыва, якую курыца сама сабе выбірае, усё гэта памагае курыцы добра разьвіцца.

Узімку йнакш. Куры зьлятаюль з курасаду каля 7 гадз. рана і ўжо каля 3-яй гадз. лезуць узноў на курасад. Праз 8 гадзін зімовага дня ня можа часам курыца дзеля сьцюжы і зімна выйсьці на двор. А калі і выйдзе, дык на зьмерзлай і сьнегам пакрытай зямлі нічога для сябе ня знойдзе Дзеля гэтага большасьць курэй узімку не нясуцца.

Зімой курыца ня мае гэтак цэннай зялёнай пашы, ня мае ніякіх жучкоў, рабачкоў і ўсякіх мушак. Адна надзея, калі корм мае быць выстарчальны, на пашу зярністую — усякае збожжа. Але з гэтым у гаспадарцы, асабліва дробнай, звычайна бывае вельмі скупа і таму куры ў гэту пару найчасьцей не нясуцца. Тая-ж гаспадыня якая думае, што курыцу нясушчую накорме бульбай ды буракамі, вельмі мыляецца, бо ў гэткім корме з акопнін не стае бялкоў і мінэральных (попелу) сучастак, з каторых курыца „будуе“ у сабе яйкі, і без каторых ня можа ня толькі несьціся, але і расьці.

Якую-ж тады даваць курам пашу, каб з яе досыць было і бялкоў і мінэральных сучастак, адным словам усяго таго, чаго трэба на „будаваньне“ яйка, ці яшчэ прась цей — каб курыца няслася?

Сказана было ўжо, што гэтыя складовыя часткі ёсьць у збажжовых зярнятах. Але самым толькі збожжам карміць курэй было-б у канцы—канцоў задорага. Таму трэба паагляну́цца за нечым танейшым у гаспадарцы, што таксама давала-б досыць і бялкоў і попелу і пры ўсім гэтым ня дорага абходзілася-б. Такім добрым, хоць і танным, кормам для нясушчых курэй ёсьць добра пасечаная канюшынная атава і мурожнае сена. Сухая, здаровая, маладая, чырвоная канюшына мае вельмі высокую кармовую вартасьць

---

мы Выводзіцца з насеньня, садзіцца ў адзін рад, што 50 см.

**Граб** найчасьцей ужываецца на жыва плоты. Насеньне ўсходзіць ажно па двух гадох. Плот можна садзіць з адзіночна растучых маладых дрэўцаў граба ў лесе. Садзіцца ў адзін рад што 50 см Можна з яго выводзіць шпалеры на 4 мэтры высокія, каторыя будуць густымі ад самога нізу.

**Белая морва** або ядвабніца (шаўкаўніца) служыць як корм для матыля-шаўкапрада (ядвабніка). Можна з яе мець вельмі харошы жываплот. Размнажаецца з насеньня. Садзіцца ў два рады, што 40 см.

**ШПІЛЬКОВЫЯ:**

Назаву адну толькі **ёлку** Садзяцца тры саджонкі на 1 мэтры ў адным радзе. Творыць шырокі (1 мэтр) жываплот. Стрыжэцца толькі па некалькіх гадох. Любіць, калі на зіму аблажыць карэньні гноем, каб не аб мерзьлі. Любіць вогкасьць. Не даецца аднавіць. Ёсьць яшчэ ёлка калючая, якая дае жываплоты таксама вельмі калючыя, трудныя да пераходу.

(*Паводле Р. Коцыка*).

---

jak aŭsiany ci jačmienny šrot (hruba źmielenaja muka), z votrubnaj pojłaj; z akopnin vielmi nadajecca dla aviečak morchva, karmovy burak (ad 4 da 6 kilo na dzień i štuku), a da ŭsiaho hetaha — dobraje murožnaje siena, kaniušyna, lucerna. Korm dla sojučaj aviečki musić być zdarovym, bo jnakš heta adbivajecca na małace i, naturalna, na jahniaci, jakoje tady dastaje niastraŭnaści i časta hibieje. Pa dvuch tydniach pačynaje ŭžo jahnio vybirać z siena dalikatniejšyja ściablinki. U hetu paru treba akranіia taho dadavać jahniaci pa krysie raściskanaha aŭsa.

Pry matcy jahnio astajecca try-čatyry miesiacy. Adstaŭlańnie pačynajecca z taho, što jahnio spačatku adstaŭlajecca ad matki što druhi dzień i dapuskajecca saić razoŭ piać na dzień; paśla radziej. Prad adstaŭlańniem jahnio ŭžo pavinna być pryvučana źjadać 1 2 kilo siena, a pa adstaŭleńni porcyja heta pavialičvajecca da 3/4 kilo na štuku ŭ dzień. Da hetaha dadajecca jšče jaravaja sałoma, a pojłaj słužyć čystaja vada z studni. Viasnoj ci ŭletku jahnio aprača taho moža dastavać jašče pašu zialonuju, jak kaniušyna, vyka: za kožnyja 20 deka siena dajecca 1 kilo pašy zialonaj. Kab nia było ŭzdućcia, nia treba davać usiu porcyju zialonaj pašy za raz, a pa čaściach, 4—5 razoŭ u dzień. Kab uścierahčy aviečku ad niastraŭnaści, nia možna davać jej vadu ani ciesna prad zialonaj pašaj, ani paśla takoj ža pašy.

Kab jahniaty hadavalisia spakojna, treba ŭčas addzialić barančykaŭ ad aviečak. Aprača taho tyja barančyki, jakija praznačany nie na hadoŭlu, a na korm i miasa, treba ŭžo pa šašci tydniach vypakładać.

**Karmleńnie i dahlad za aviečkami: a) uletku.** U haspadarcy niama badaj druhoj takoj žyvioły, jakaja ŭletku asablіva patrabavała-b tak mała na svajo ŭtrymańnie, jak heta robić aviečka, jakaja ŭ hetu paru kormicca dasłoŭna tymi reštkami, jakija jnakš zmarnavalisia-b. Na tych paśbiščach dzie nia ŭtrymajecca nivodnaja žyvioła, aviečka patrapić znajšci sabie jšče kali nia sytnuju, to ŭ kožnym

і зусім добра замяняе вотрубы, шрот (муку) і зярно. Добрым кормам таксама можа быць і канюшынная мякіна.

Канюшына сама толькі адна курам звычайна не даецца; яе трэба мяшаць з бульбай ці з кармовым бураком: на дзьве часткі канюшыны адна частка бульбы ці буракоў.

Іншы „мокры“ спосаб прыгатаваньня пашы для курэй прадстаўляецца гэтак: канюшына дробна пасячэцца і з вечара заліецца ў судзіне гарачай (кіпучай) вадой і прыкрыецца добрым векам. Раніцай да гэтай паранкі даюцца йшчэ ўсякія адпадкі ад яды людзкой і ўсё крыху йшчэ прысольваецца. Да гэткай пашы трэба курэй прызвычайваць памалу, а перад усім трэба самую паранку выжымаць, бо куры ня любяць вады ў самай пашы. Дзеля таго аднак, што такая вада з канюшыннай паранкі мае ў сабе вельмі шмат спажыўных сучастак, яе ня можна выліваць вон, а трэба выкарыстываць як пойлу.

Можна аднак даваць курам і самую толькі дробна пасечаную канюшыну на суха. асабліва крыху яе пасаліўшы. Каб куры гэткі корм не раскідалі, яго трэба даваць у карытцы прыкрытым рэдкай сеткай, праз каторую курыца магла-б толькі праціснуць галаву, але не магла б капацца.

На нач (увечары) аднак заўсяды найлепш даваць курам пашу з збажжовых зярнят, каторыя пасыпаюцца не на роўную і чыстую зямлю, а ў салому: гэтым змушаюцца куры рухацца і саграваццa. Для тэй-жа мэты вешаюцца курам качаны капусты ці пучкі сухой крапівы, падскаківаючы да каторых курыца рухаецца і саграваецца.

Рух і адпаведны корм канешна патрэбны курыцы, калі яна мае добра несьціся.

*Г.*

# Колькі ў коняў.

Пад назовам колькаў трэба разумець цэлы рад брушных боляў у каня, прычыны якіх бываюць самыя рознаякія. Вонкавыя азнакі колькаў бываюць найчасьцей наступныя: у жывёлы прападае апэтыт, яна стогне, аглядаецца на зад, капае ўсімі нагамі пад бруха, кладзецца і ўстае, „стрыножваецца“, становіцца на калені пярэдніх ног, або сядае на ногі заднія. Часам усе гэтыя азнакі ці толькі некаторыя з іх бываюць вельмі бурныя і жывёла становіцца небясьпечнай. Тое, што конь хворы на колькі качаецца, ня ўсе аднолькава ацэньваюць. Адны кажуць, што гэта добра, другія ўзноў што гэта вельмі небясьпечна. Большасьць аднак перакананa, што вольнае і роўнае качаньне ня ёсьць шкодным; затое вострае кіданьне жывёлы вобзем і раптоўнае пасьля ўставаньне ўсе блізу ацэньваюць як вельмі небясьпечнае і што найлепш жывёлу хворую на колькі і склонную да ляганьня і ўставаньня так скора вадзіць па роўным месцы, каб яна ня мела часу на ляганьне. — Дальшай азнакай хворасьці каня на колькі ёсьць ня роўная (не заўсяды!) па ўсім целе тэмпэратура (цяплыня): вушы і ногі бываюць сьцюдзёныя, а храпы сухія і гарачыя. Сьлізістая павалока набірае колеру брудна-чырвонага, жаўтаватага або фіалетавага. Чыннасьць (рух) чэрава (кішок) звычайна застанаўляецца, або прынамся становіцца нерэгулярнай. Кал або зусім ня выходзіць, або выходзіць нерэгулярна, малымі кускамі, сухі, пакрыты сьлізам, вельмі сьмярдзючы. Таксама цяжка і балюча наступае мачэньне.

Прычыны колькаў бываюць вельмі рознаякія. Перад усім трэба ўспомніць аб пра-

---

vypadku vystarčajučuju pašu. Pryhodna dla ich usialakaje suchoje paśbišča i lasnoje vierasaviščа. Na lepšych paśbiščach možna aviečak paśvić razam z karovami, ale jašče lepš—paśla karoŭ. Tolki nia možna trymać aviečak za doŭha na adnym miescy, bo nadta nizka vyhryzajuć sienažatnaje dziarno i hetym mohuć jamu zaškodzić. Adzin hektar paśbišča siaredniaj jakaści moža prakarmić 8—10 aviečak, jakich nia možna adnak puskać pa ŭsim paśbiščy adrazu, a tolki pa. čaściach. Znojdzie sabie aviečka dosyć pašy na aržyščach, kaniušyniščach, bulbianiščach, buračyščach, dzie pobač z roznymi astatkami raścin pasieŭnych, vybiraje vialikaje mnostva roznaha pustaziella, pamahajučy takim čynam haspadaru čyścić pole ad niepatrebnych i škodnych travaŭ.

Pry ŭsim hetym treba pamiatać, kab aviečak:

1) nia paśvić na mokrych i padmokłych paśbiščach, bo tam aviečki mohuć nabavicca niebiaśpiečnaj dla ich i zaŭsiody blizu śmiertanosnaj matylicy i lohačnych červiaŭ;

2) doŭha nia trymać na buračyščach i bulbianiščach, bo ad nadbytku hetaj pašy aviečki dastajuć razvalnieńnie;

3) nia paśvić na mokrym kaniušyniščy, bo heta vyklikaje ŭ aviečak uzdućcio; taja samaja niebiaśpieka, kali karmić aviečki śvieža skošanaj, ale ŭžo sahretaj zialonaj kaniušynaj;

4) u daždžystuju pahodu najlepš aviečak zusim nie vyhaniać na pastu, taksama nia možna ich vyhaniać i na zimnuju rasu; u takich vypadkach zdavolicca aviečka ŭ chlavie zvyčajnaj sałomaj, aby tolki była zdarovaj i aby hetaj sałomy było ŭdoval;

5) pasučy ŭ lesie nia možna puskać aviečak u śviežy maładniak, bo jaho abhryzuć;

6) paić tolki ciakučaj vadoj abo čystaj vadoj z studni. Dla abarony aviečak prad zarazaj matylicy dadajuć na 1 viadro vady 3 łyžki terpatyny. Uvosieni-ž aviečkam, jakija paśvilisia na mokrych paśbiščach, proci tej-ža matylicy dajuć pa adnej piluli hetak zvanaha d i s t o l u.

*(dalej budzie)*

V. Ach—vič.

студзе, што асабліва часта здараецца ўвосені і вясной, калі ў паветры шмат бывае сырасьці. Таксама небясьпечны бываюць сырыя хлявы, асабліва калі туды паставіць жывёлу сагрэтую працай, або наагул аслабленую і таму чуткую на зьмену тэмпэратуры, напр. пасьля родаў.

Дальшай прычынай хваробы ёсьць неўласьцівае кармленьне: а) вельмі абыймістым, але бедным на кармовыя сучасткі кормам, б) вельмі сільнае кармленьне ў пару, калі жывёла стаіць бяз руху і працы (у часе даўжэйшых сьвяткоў), в) падаваньне корму намочанага вадой або за надта хуткае кармленьне, калі жывёла не пасьпявае добра прасьлініць увесь корм, г) кармленьне мукой, жытам, нясьпелым аўсом, нявыпарыўшым сенам, канюшынай, сьвежай бульбай, д) сапсаваны (сплесьніўшы, закіслы, запараны або і сусім гніючы) корм, е) хуткае кармленьне і г. п. Пры ўсім гэтым найнебесьпячней, калі трыбух ці чэрава (кішкі) напоўняцца за надта і лопнуць: наступае тады заўсяды сьмерць. Наагул-жа перапоўненьне пашай страўных ворганаў (трыбуха, кішок) у каня вельмі небясьпечна дзеля таго, што ўстройства конскага трыбуха не пазваляе ніколі выкінуць непатрэбнае назад у форме рвотаў: у каня можа лопнуць трыбух, але ня могуць настаць рвоты.

Розныя рабакі ў страўным апараце каня таксама бываюць прычынай вострых боляў, ведамых наагул як колькі. Яшчэ горшымі аднак бываюць розныя каменьні і звычайны пясок у трыбусе і ў чэравах, што асабліва часта здараецца ў коняў пры пякарнях і млынох, дзе знаходзяць каменьні вагай больш 10 кілё. Урэшце розныя наросты ў конскіх чэравах і благія навыкі самых коняў (напр. глытаньне паветра) таксама бываюць прычынай колькаў.

Гэткая рознаякасьць прычын, якія выклікаюць хваробу колькаў, вымагае каб кольку лячыла асоба з справай абазнаная, лекар-вэтэрынар. Канешна ж трэба клікаць вэтэрынара, калі хвароба зацягнецца больш як паўтара дня. Вэтэрынар пры кольках можа шмат памагчы. Няма толькі ратунку, калі прычынай хваробы было аб'яданьне, давёўшае да разарваньня трыбуха ці самых ужо чэраваў.

Прад прыходам лекара трэба хворую жывёлу паставіць у прасторным хляве, добра падаслаць і звольна націраць саламянымі вехцямі шыю, грудзі, брух, ногі. Калі ёсьць пад рукой, можна ўзяць да націраньня тэрпэнтынавы алей або раствор камфору ў сьпірце.

Памысны ход хваробы пазнаецца па тым, калі перастаюць брушныя болі — каб толькі ня лопнуў трыбух, пры чым таксама перастаюць болі, — калі зраўнуецца цяплыня ўсяго цела (вушэй і храпаў), калі жывёла пачне аддаваць кал і моч.

Благі канец хваробы варожыць, калі болі стала ўзрастаюць, калі выступае зімны пот, не наступае развальненьне, а вушы і ногі стала астаюцца зімнымі. Знак гэта, што хвароба вельмі паважная і астаецца толькі або клікаць лекара, або дабіць безнадзейна церпячую жывёлу.

*В. Б—скі.*

# ГАСПАДАРЧАЯ ХРОНІКА.

Камісія Помачы Беларускай Студэнскай Моладзі пры Бел. Нац. К—це сарганізавалася і прымае дабравольныя складкі. Старшынёй Камісіі ёсьць інж. Л. Дубейкаўскі, сэкрэтаром — мр Я. Шутовіч, скарбнікам—Д-р Ст. Глякоўскі. Абавязкам кожнага беларуса ёсьць запісаць у Камісіі сваю, хоць бы наймяншую, месячную складку. Адрэс Камісіі: Вільня, Завальная 1—1. З паза Вільні ахвяры трэба адрэсаваць на імя скарбніка Камісіі Д-ра Ст. Глякоўскага (Завальная 1—1).

Свае сваіх не пазналі? Дня 2 сьнежня 1934 г. адбыўся ў Варшаве гадавы зьезд „С.Т.О.і К.R" агульнапольскай фаховай арганізацыі земляробства, куды ўцягнена і земляробства наша, беларускае. Вось-жа на гэтым зьезьдзе прысутныя наракалі, што адміністрацыйныя ўлады ня пускаюць іх працаваць" на абшары ваяводзтва палескага (ваяводай там палк. К.– Бернацкі). Тая самая гісторыя была і на зьезьдзе тэй-жа арганізацыі ў Беластоку. — Ня станем тут адгадываць, ці гэткае няўпусканьне" ёсьць адным толькі непаразуменьнем „пасваячаных" людзей ці сапраўды сьведамым адпорам. Важна толькі тое, што польскія „дабравольныя" арганізацыі на беларускіх (і ўкраінскіх) абшарах бяз помачы ўладаў адміністрацыйных працаваць ня могуць.

Ідэовы крызыс польскай спажывецкай коопэрацыі. Ведамы польскі коопэратыўны дзеяч і дырэктар „Społem!"-у А. Рапацкі меў 13.XI сёл. рэфэрат на тэму „Крызыс капіталізму і крызыс коопэрацыі." Наагул, паводле паведамленьня Бюлетэня варшаўскага Т-ва Коопэратараў, прэлегент выказаў зьняверанне ў дальшую жыцьцёвую сілу польскай спажывецкай коопэрацыі.—Думка гэта шмат каму паказалася дзіўнай і неспадзява ай. Таму аднак, хто ведае сягоньняшнюю „апеку" над коопэрацыяй усякіх чыньнікаў некоопэратыўных, становішча і думкі грам. А. Рапацкага будуць хіба зразумелымі: не сакрэт-жа, што польская коопэрацыя перастае быць... коопэрацыяй.

# Наша пошта.

П. Гап—ак: Ці атрымалі Вы ўрэшце нашы пісьмы? Адказы даваліся Вам аж тры разы. Нейдзе каля Вас мусіць ёсьць добры „прыяцель," каторы Вас сьцеражэ. Пішэце.

Я. Мат—нак: Адказ высланы пісьмом; ці атрымалі? Зьбірайце падпіску. Прывітаньне.

М. С—ка: Усё, аб чым Вы прасілі, выслана. Непаразуменьне выйшла толькі з адрэсаваньнем рахунку. Калі высланы рахункі не падходзіць, дык паведамеце, папраўвім. Абяцанага апісаньня яшчэ не атрымалі і таму не зьмяшчаем. Як там справа падпіскі? Падумайце!

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ

Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

Я. Ген-уш: Усё што Вы прасілі — выканана. Выняткова можам Вам выслаць поўкамплета. Але падпіску прысылайце зараз.

П. Русак: Так, фаховая асьвета нам вельмі патрэбная. Патрэбны і працаўнікі Вы маглі-б нам вельмі памагчы, калі-б сабралі у сваей ваколіцы дзесятку падпішчыкаў Аб варунках падпіскі даведаецеся з самай „Самапомачы“ (на вокладцы). Працуйце, не апускайце рук!

А. Сен—іч: Калі куры ліюць, то гэта знак, што ня маюць у сабе матэрыялу, з якога маглі-б будаваць скарупу яйка. Папраўіць гэты недастатак можна дадаючы курам у асобным карытцы патоўчаную крэйду, гашаную вапну, цэглу, ,квір, дзераўляны вугаль. — Папрабуйце гэтыя спосабы і аб рэзультатах паведамеце.

А. В—скі і Б. Су—ач: Выканаўчых распараджэньняў да ўставаў аб задоўжаных яшчэ няма і таму аб іх у гэтым нумары ня пішам. Сусім слушна кажаце, што з гэтых законаў наш мужык скарыстае мала, бо яны не для яго пісаны

Бр. Даніловіч: Вам „Самапомач“ высылаецца акуратна і гіне гдзесь у дарозе. Замест недайшоўшага пасылаем другі экзэмпляр „Самапомачы“ за м-ц лістапад.

В. За-ім і П. Бодак: Адказы Вам высылаем асобнымі пісьмамі. Прывет.

інж В. Ру—ак: календары высланы, ці атрымалі?

## Прысланае

### у рэд. „Самапомачы“:

1. „Український Агрономічний Вістник“ квартальнік, кніжка 3-яя 1934 г. (Львоў, Рынак 10.-ІІ. Рэдактар Інж.-Др. Е. Храпливий),
2. „Agronomja Społeczna“—месячнік, (Warszawa, Kopernika 30. Red. Dr. A Wojtysiak).
3. „Коопэративна Республика“—месячнік, (Львоў, вул. Міцкевіча 12. Рэдактар Д-р. К. Коберський.
4. **Kalendarzyk па 1935 г.** Chrześc. Spółdz. па Antokolu w Wilnie.
5. **Як управляти й погноювати наші грунти?**—інж. А. Романенко.
6. **Беларускі Народна-Гаспадарскі Календар на 1935 г.**
7. **Сьмерць К. Каліноўскага** — поэма М. Машары.
8. **Беларускі Адрыўны Календар на 1935 год.**
9. **„Hołas Dušy“** — knižka da nabaženstva dla Biełarusaŭ-katalikoŭ, vyd. II.

*Працяг „Зъместу.“*

